МІЖНАРОДНАЕ ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ "ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

№8 (148)
жнівень 2014

# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## У НУМАРЫ:

### РАСПАЧАТЫ ДРУГІ СЕЗОН ПРАЕКТУ "КРАЙ|BY"

І для актыўных вандроўнікаў, і для патэнцыйных культурніцкая кампанія "Будзьма беларусамі!" і Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны распачынаюць другі сезон праекта "Край | BY".

*Чытайце на стар. 2*

### ДЗЕНЬ САЛІДАРНАСЦІ З БЕЛАРУССЮ АДЗНАЧЫЛІ Ў ПЕЦЯРБУРГУ

Каля 20 чалавек узялі ўдзел у Дні салідарнасці з грамадзянскай супольнасцю Беларусі, які адбыўся 4 жніўня ў Санкт-Пецярбургу.

*Чытайце на стар. 3*

### ДЖЫМ ДЫНГЛІ: "КОЛЬКІ ЎЖО МОЖНА АДРАДЖЭННЯЎ?"

Пра беларускі нацыянальны фенамен, адраджэнскія мроі і непазбежнасць дыялогу з уладамі "Беларусский журнал" пагутарыў з самым беларускім ангельцам.

*Чытайце на стар. 4*

### ТБК У ГАСЦЯХ У АЎКШТАЙЦІІ

2-3 жніўня Таварыства беларускай культуры ў Вільні правяло сваю чарговую вандроўку.

*Чытайце на стар. 6*

НАВІНЫ

## У НЬЮ-ЁРКУ ПРАЙШЛА 31-Я СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЙ АМЕРЫКІ

Прадстаўнікі беларускіх суполак Амерыкі і Канады сабраліся разам 30 жніўня ў Нью-Ёрку ў Грамадскай зале сабора Кірылы Тураўскага для ўдзелу ў 31-й Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі. Амерыканскі бок быў прадстаўлены арганізацыямі з Нью-Ёрка і Нью-Джэрсі, Маямі (Фларыда), Чыкага і Вашынгтона. З Канады прыехалі прадстаўнікі Згуртавання Беларусаў Канады.

А завяршыла першы дзень Сустрэчы забаўляльная праграма з танцамі і спевамі, якую падрыхтавалі і правялі музыкі Валянцін і Таццяна Дзямешчыкі з Нью-Джэрсі разам са сваімі дзецьмі.

У нядзелю, 31 жніўня, адбылося афіцыйнае адкрыццё Сустрэчы. Пачала яго Старшыня Аргкамітэту сустрэчы Таццяна Красоўская. Затым яна перадала слова Старшыні Бруклінскага аддзела БАЗА Андрэю Асадчаму, які вёў рэй далей.



*Выступае Сяргей Навумчык*

У першы дзень сустрэчы была ўрачыста адзначаная 23-я гадавіна аднаўлення незалежнасці Беларусі. Удзельнік падзеяў жніўня 1991 года, дэпутат Вярхоўнага савету 12-га склікання Сяргей Навумчык падзяліўся ўспамінамі пра той час.

Таксама гасцям была прадстаўленая фотавыстава Джона Кунстадтэра "Неруш", адкрыццё якой адбылося ў саборы 3 жніўня. Затым госця з Канады Ірына Варабей прадставіла прысутным выставу сваіх вышыванак і распавяла пра створаны ёю брэнд "Spirit of Belarus".

Першай слова атрымала спадарыня Валянціна Шаўчэнка, Старшыня Згуртавання Беларусаў Канады. Далей з вітальным словам выступіла Старшыня Галоўнай Управы БАЗА спадарыня Ганна Сурмач, яна ўзгадала мінулую Сустрэчу беларусаў Паўночнай Амерыкі, што адбылася ў Канадзе два гады таму. Было зачытана вітальнае слова да ўдзельнікаў Сустрэчы ад Старшыні Партыі КХП-БНФ Зянона Пазьняка, даслане з Варшавы.

Са змястоўнымі аналітычнымі



## У Нью-Ёрку прайшла 31-я Сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі

*Працяг. Пачатак на першай старонцы*

прамовамі пра сітуацыю ў Еўропе і Беларусі выступілі Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла і яе намеснік Сяргей Навумчык, які прыехаў з Прагі. Ён распавёў пра некалькі апошніх год дзейнасці БНР. Ганна Сурмач зачытала вітанне ад ЗБС "Бацькаўшчына".

У адпаведнасці з праграмай, Сустрэчу прадоўжыла дыскусія аб развіцці беларускай супольнасці ў Паўночнай Амерыцы і дэбаты па гэтай тэме, якія завяршыліся прыняццем Рэзалюцыі.

На цырымоніі закрыцця Сустрэчы зноў выступіла Валянціна Шаўчэнка. Яна падзякавала арганізатарам за цёплы прыём і запрасіла прыязджаць у Атаву – на наступную, 32-ю, Сустрэчу.

Святочны канцэрт з удзелам прадстаўнікоў Канады і ЗША, які вяла Таццяна Дзямешчык, быў цёпла прыняты публікай.

*Прэс-служба БАЗА*

ВІНШАВАННІ

## Віншаванне сябраў Вялікай Рады



Маем гонар павіншаваць з Днём нараджэння сяброў Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", якія нарадзіліся ў верасні: **Алену Анісім, Ніла Гілевіча, Уладзіміра Коласа, Алеся Пашкевіча, Змітра Саладуху** (Беларусь), **Ірыну Кузьміч, Вячку Целеша** (Латвія), **Георгія Казака** (Расія). Зычым шаноўным імянінікам натхнення ў творчасці, спору ў працы, святла і любові ў жыцці, а таксама здароўя і дабрабыту!

*Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

## Распачаты другі сезон праекту "Край|BY"

Вандраваць любяць усе. Праўда, некаторыя пра гэта пакуль не здагадваюцца. І для актыўных вандроўнікаў, і для патэнцыйных культурніцкая кампанія **"Будзьма беларусамі!"** і **Таварыства беларускай мовы** імя Ф.Скарыны распачынаюць другі сезон праекта "Край|BY" і прапануюць вандраваць… online!

"Край|BY" – серыя фільмаў, у якіх шчыра, з гумарам і ў рэжыме тач-скрын Павал Харланчук і Вірус беларушчыны, які завёўся ў студыйным камп'ютары, расказваюць пра беларускія мясціны, у якія варта вяртацца зноў і зноў.

У жніўні ды на пачатку верасня "Край|BY" запрашаў у online-падарожжы да Нарачы, мястэчкаў Сталовічы, Відзы ды Друя, а наперадзе яшчэ шмат цікавых вандровак. Кожны аўторак вас чакае online-падарожжа ў свет таямніцаў, інтрыгаў і цікавостак, якія захоплена збірае для ўсіх нас творчае аб'яднанне "ПАН-студыя".

Беларускі край прыхаваў для нас процьму маляўнічых мясцінаў, яскравых гісторый і захапляльных легендаў! Адшукайма іх разам!

*Паводле budzma.by*

**Інфармацыйныя партнёры праекту:**

GAZETABY.COM

Holiday.by









Наша Ніва nn.by
ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Агентство новостей
Telegraf.by

TIO.BY
ПОРТАЛ ГАЗЕТЫ "ТУРИЗМ И ОТДЫХ"

## Удзячнасць БІНіМу – мовазнаўцу Змітру Саўку



"Удзячнасць ад БІНіМу" была абвешчаная мовазнаўцу Змітру Саўку. Урачыстае ўзнагароджанне адбылося 2 жніўня падчас прэзентацыі кнігі Васіля Стомы "Маё мястэчка" ў вёсцы Лужкі Шаркаўшчынскага раёна Віцебскай вобласці.

Створаны на пачатку 1950-х гадоў у Нью-Ёрку Беларускі інстытут навукі і мастацтва ад пачатку быў установай, што аб'ядноўвала беларускіх інтэлектуалаў на Захадзе. Пісьменнікі, навукоўцы, мастакі, музыкі, што апынуліся на эміграцыі, мелі магчымасць удзельнічаць у імпрэзах, выставах, канферэнцыях, ладжаных Інстытутам, друкавацца ў ягоных перыёдыках. Сёння БІНіМ актыўна займаецца папулярызацыяй ведаў пра беларускую эміграцыю і падтрымлівае даследчыкаў і навукоўцаў, што дапамагаюць Інстытуту ў гэтай справе.

Так, у 2013 г. удзячнасць ад БІНіМу атрымаў гісторык Алесь Пашкевіч, а сёлета ўжо традыцыйная талерка з эмблемай Інстытута ды невялікае грашовае ўзнагароджанне было ўручанае прадстаўніцай БІНіМа, гісторыкам Наталляй Гардзіенкай мовазнаўцу Змітру Саўку. Даследчык цягам апошніх трох гадоў рыхтаваў да выдання ўспаміны эміграцыйных дзеячаў: Васіля Стомы "Маё мястэчка" ды Яўхіма Кіпеля "Эпізоды", што пабачылі свет у серыі "Беларуская мемуарная бібліятэка" выдавецтва "Лімарыус". Ён жа падрыхтаваў для публікацыі не друкаваныя раней успаміны Адама Варлыгі (Язэпа Гладкага), што таксама чакаюць выдання.

*Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

# ДЗЕНЬ САЛІДАРНАСЦІ З БЕЛАРУССЮ АДЗНАЧЫЛІ Ў ПЕЦЯРБУРГУ

Каля 20 чалавек узялі ўдзел у Дні салідарнасці з грамадзянскай супольнасцю Беларусі, які адбыўся 4 жніўня ў Санкт-Пецярбургу. Сярод удзельнікаў былі грамадзяне Расіі і Беларусі, праваабаронцы і студэнты. Арганізатарамі мерапрыемства выступілі актывісты Міжнароднага Моладзевага праваабарончага руху.

Вядучы імпрэзы Раман Баяркоў, дацэнт кафедры прыкладной паліталогіі НДУ "Вышэйшая школа эканомікі", удзельнік Міжнароднага Моладзевага праваабарончага руху, распавёў пра гісторыю Дня салідарнасці. Ён нагадаў, што ў гэты дзень, 4 жніўня 2011 г., быў кінуты за краты кіраўнік праваабарончай арганізацыі "Вясна" Алесь Бяляцкі. Нягледзячы на тое, што нядаўна праваабаронца быў выпушчаны на свабоду, сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі застаецца даволі крытычнай.

Беларуская праваабаронца Валерыя Саўчанкава падрабязна распавяла аб сітуацыі з правамі чалавека ў сябе на радзіме. Паводле яе слоў, у краіне парушаюць асноўныя правы чалавека – на жыццё, мітынгі і сходы, свабоду аб'яднанняў, атрыманне і распаўсюд інфармацыі і многія іншыя. Няўрадавыя арганізацыі пазбаўленыя магчымасці легальнай працы. Да сённяшняга дня за кратамі знаходзіцца 7 палітвязняў, да ўдзельнікаў несанкцыянаваных акцый ужываюцца катаванні. Арганізатары прадэманстравалі зварот Алеся Бяляцкага, а таксама некалькі ролікаў аб парушэнні правоў чалавека ў Беларусі, прымеркаваных да травеньскага Чэмпіянату свету па хакеі.

Аналізуючы становішча грамадзянскай супольнасці ў Беларусі, шмат хто з удзельнікаў сустрэчы ўбачыў паралелі з сітуацыяй у Расіі. Тут таксама ідзе імклівы наступ на правы чалавека: забароненыя мітынгі і сходы, незалежныя СМІ і няўрадавыя арганізацыі стала зазнаюць жорсткі прыгнёт, зноў пачаліся напады на праваабаронцаў. Тут, як і ў Беларусі, з'явіліся палітвязні. "Расія на мяжы поўнамаштабнай вайны, а падчас вайны ўсе, хто патрабуе выканання сваіх правоў, і тыя, хто іх абараняе, могуць быць прыроўненыя да здраднікаў народа і краіны. Цяперашняя палітыка кіраўніцтва Расіі – выразнае таму сведчанне. Невыпадкова Пуцін сярод крыніц пагроз для Расіі назваў "інфармацыйныя і камунікацыйныя тэхналогіі", а таксама некамерцыйныя арганізацыі (НКА)", – гаворыць супрацоўнік адной з праваабарончых арганізацый Пецярбурга Ігар Станкевіч.

"Калі я слухала аповеды аб становішчы ў Беларусі, я думала, што нас гэта не закране. Але калі летась нашая арганізацыя паводле пастановы суда была закрытая на месяц за адмову выканаць незаконнае патрабаванне пракуратуры – даць усю дакументацыю аб дзейнасці арганізацыі, я зразумела – Беларусь прыйшла і ў Расію. Сітуацыя пагаршаецца з кожным днём. Цяпер я больш уважліва стаўлюся да беларускага досведу. Я разумею, тое, што было ў Беларусі некалькі гадоў таму – гэта нашае заўтра, а, можа быць, ужо сёння", – дзеліцца сваімі ўражаннямі Рыма Шарыфуліна, прэзідэнтка адной з вядомых праваабарончых арганізацый у горадзе "Пецярбургская Эгіда".

Інфармацыя аб сітуацыі ў Беларусі для шматлікіх удзельнікаў была шакавальнай. Усе казалі пра тое, што праваабаронцы дзвюх краін павінны часцей абменьвацца досведам, каб больш эфектыўна абараняць правы грамадзян.

Закончылася сустрэча калектыўнай фатаграфіяй на фоне лагатыпа Дня салідарнасці.

*Паводле інфармацыі Ігара Станкевіча*

# АКЦЫЯ САЛІДАРНАСЦІ Ў КІЕВЕ

Рух Салідарнасці "Разам" правёў 4 жніўня 2014 г. у Кіеве шэраг акцый, прымеркаваных да Міжнароднага дня Салідарнасці з беларускай грамадзянскай супольнасцю. Раніцай з вокнаў офіса Руху Салідарнасці "Разам" на вуліцы І. Мазепы быў вывешаны вялікі бел-чырвона-белы сцяг. Пазней адбылося пікетаванне амбасады Беларусі. Акцыя пачалася хвілінай маўчання па загінулых украінскіх вайскоўцах, якія, на думку ўдзельнікаў, загінулі ў барацьбе з расійскім імперыялізмам не толькі за Украіну, але і за Беларусь, і за ўсю Еўропу. На акцыі выступілі прадстаўнікі Руху Салідарнасці "Разам" Вячаслаў Сіўчык, Галіна Сарочык, Алег Аўсяннік, прадстаўнік беларускіх анархістаў Аляксандр Андрушкевіч, вядомы ўкраінскі паэт Алесь Ірванец, кіраўнік грамадскай арганізацыі "Луганск" Сяргей Бандарэнка. Прысутныя патрабавалі вызвалення палітвязняў Ігара Аліневіча, Змітра Васьковіча, Мікалая Дзядка, Эдуарда Лобава, Арцёма Пракапенкі, Васіля Парфянкова і Мікалая Статкевіча, а таксама намесніка старшыні Руху Салідарнасці "Разам" Алеся Макаева і актывіста Руху Салідарнасці "Разам" Іллі Дабратвора, якія незаконна былі асуджаныя на суткі за нацыянальную сімволіку.

*Паводле прэс-групы Руху Салідарнасці ва Украіне*

# ІНІЦЫЯТАРЫ КУРСАЎ "МОВА ЦІ КАВА" ЗАПУСЦІЛІ КАМПАНІЮ "НАВУЧЫ СЯБРА РАЗМАЎЛЯЦЬ ПА-БЕЛАРУСКУ"




Ініцыятары курсаў беларускай мовы "Мова ці кава" пад эгідай кампаніі "Зробім лепш!". Асамблеі недзяржаўных дэмакратычных арганізацый (НДА) запусцілі ў Мінску і рэгіёнах Беларусі праект "Навучы сябра размаўляць па-беларуску".

Як паведамляецца, праект скіраваны на "пераадоленне страху, псіхалагічных бар'ераў, папулярызацыю ідэі размаўляць па-беларуску і дэпалітызацыю моўнага пытання".

"Усім ахвотным і неабыякавым прапаноўваецца ўзяць шэфства хоць бы над адным сваім рускамоўным сябрам і навучыць яго размаўляць па-беларуску, — адзначаюць аўтары праекта. — Гэта можа быць, напрыклад, ваш добры знаёмы ці сябар дзяцінства, брат, сястра, бацька, бабуля ці чалавек, якога вы сустрэлі ўчора ў тралейбусе і які не мае нічога агульнага з беларушчынай. Чалавек, які вывучыў беларускую мову, адкрывае для сябе новы свет: новую музыку, новыя кнігі, новае кола зносін".

Усіх, хто вырашыць паўдзельнічаць, аўтары праекта просяць паведаміць свой паштовы адрас, на які будуць высланы тэматычныя наклейкі і іншая прадукцыя. "Навучыць мове — справа няпростая. Менавіта таму "Мова ці кава" падрыхтавала спецыяльную прадукцыю, слоўнікі і карысныя спасылкі, якія спатрэбяцца падчас навучання", — дадалі арганізатары праекта.

Акрамя таго, у межах гэтай ініцыятывы стартуе конкурс гісторый — аўтары праекта прапаноўваюць усім ахвотным напісаць, як яны "прыйшлі да беларушчыны" ці "дапамаглі знаёмым ці сваякам загаварыць па-беларуску". Усіх удзельнікаў чакаюць фірменныя майкі ад "Мова ці кава", аўтары ж "самых цікавых, смешных і дасціпных тэкстаў" стануць уладальнікамі флэшкартак, беларускіх кніг і дыскаў з музыкай беларускіх выканаўцаў. Тэксты неабходна публікаваць на старонках "Мова ці кава" ў сацыяльных сетках Facebook і "УКантакце".

*Захар Шчарбакоў, БелаПАН*

# ДЖЫМ ДЫНГЛІ: "КОЛЬКІ ЎЖО МОЖНА АДРАДЖЭННЯЎ?"

*(Публікуецца ў скароце. Цалкам матэрыял ёсць на сайце zbsb.org)*



У далёкім 1965-м выпускнік Кембрыджа і супрацоўнік аддзялення славістыкі бібліятэкі Брытанскага музея Джым Дынглі сустрэў у Лондане айца Аляксандра Надсана. Ад яго даведаўся, што першым усходнеславянскім друкаром быў зусім не Іван Фёдараў, а Вялікае Княства Літоўскае не тое ж самае, што сучасная Літва. Пачутае перакуліла ўяўленне ангельца пра славянскі свет дагары нагамі. І назаўжды прывязала яго да Беларусі.

З таго часу Джым Дынглі стаў адным з самых актыўных сябраў Англа-беларускага таварыства — адной з найстарэйшых і найбольш паважаных арганізацый беларускага замежжа, што сёлета адзначыла 60-годдзе.

Джым чытаў беларусаведныя лекцыі, рэдагаваў The Journal of Byelorussian Studies, даследаваў і перакладаў. А яшчэ навучыўся размаўляць па-беларуску амаль без акцэнту. Верагодна, не ў апошнюю чаргу дзякуючы беларускай жонцы Элі, з якой пазнаёміўся на святкаванні 500-годдзя Францішка Скарыны ў Полацку.

Сёлета 72-гадовы Дынглі, які з перапынкамі ўзначальваў Англа-беларускае таварыства чвэрць стагоддзя, перадаў стырно кіравання быламу амбасадару Злучанага Каралеўства ў Беларусі Браяну Бэнэту. Пра беларускі нацыянальны феномен, адраджэнскія мроі і непазбежнасць дыялогу з уладамі "Белорусский журнал" і пагутарыў з самым беларускім ангельцам. Размова, дарэчы, адбывалася па-беларуску.

**"Белорусский журнал"**: Джым, у 1965-м вы адкрылі для сябе Беларусь. Колькі часу спатрэбілася, каб зразумець беларускі феномен?

**Джым Дынглі**: Не думаю, што зразумеў яго цалкам. Гэтаксама не магу сказаць, што мне ўдалося зразумець ангельскі феномен. Чытаеш, вучышся, бываеш у краіне — усё роўна кожны раз бачыш нешта новае.

**БЖ**: Калі вы ўпершыню трапілі ў Беларусь?

**ДжД**: У 1988-м. Дагэтуль ужо вучыўся ў Маскве, быў у Ленінградзе, а ў Казані рыхтаваў курсы рускай мовы для студэнтаў Універсітэцкага каледжа Лондана, якіх упершыню рассялілі па савецкіх сем'ях. Тады ў мяне была знаёмая з Мінска, якая выкладала рускую мову ў Лондане. Вырашыў яе адведаць.

**БЖ**: Вы на той час ужо былі "сваім" у беларускім эмігранцкім асяродку ў Лондане. Што вас здзівіла ў Мінску?

**ДжД**: Я добра ведаў савецкую рэчаіснасць, а Мінск быў класічным савецкім горадам. Я разумеў, што беларуская рэчаіснасць Лондана зусім іншая і не мае дачынення да таго, што адбываецца ў Савецкай Беларусі.

**БЖ**: Але як вы тлумачылі для сябе гэты падзел? Нібыта адзін народ, але такі розны.

**ДжД**: Сапраўды, нібыта адзін народ, але розныя яго прадстаўнікі маюць адрозныя падыходы да беларускасці. З навуковага гледзішча гэтая беларуская падвоенасць у светапоглядах і свядомасці — вельмі цікавае з'явішча.

Праўда, у той першы прыезд я сустрэў у Мінску Адама Мальдзіса, пасля чаго зразумеў, што і ў БССР ёсць беларусы, падобныя на лонданскіх. Хоць і было іх тады вельмі мала.

**БЖ**: Беларусы старой паваеннай эміграцыі скептычна ставіліся да беларусаў у метраполіі з няпэўнай нацыянальнай свядомасцю, да тых, хто не размаўляе па-беларуску. Часам і за беларусаў іх не лічылі. Ці ўважаеце вы такіх людзей за беларусаў?

**ДжД**: Канечне, раз яны грамадзяне Беларусі. З аднаго боку, я цудоўна разумею пазіцыю тых эмігрантаў. З іншага, беларусы ў Беларусі мусяць будаваць сваю рэспубліку згодна з іх уласным разуменнем. Гэта не наша права, не права беларусаў у Англіі ці Амерыцы вызначаць, хто ёсць беларусам, а хто не.

**БЖ**: Наколькі істотны ўплыў той паваеннай эміграцыі на ходу беларускай гісторыі?

**ДжД**: Я заўжды думаў, што ўплыў дыяспары на метраполію быў вялікі, але цяпер пачынаю сумнявацца. Мяркую, галоўны ўнёсак — культурны. Але што гэта значыць для беларусаў у звычайнай мінскай кватэры, якіх я сустракаю падчас рэгулярных прыездаў у вашу сталіцу, не ведаю. Нават калі людзі ў Беларусі размаўляюць па-беларуску, яны хутчэй за ўсё не думаюць пра бібліятэку імя Францішка Скарыны ў Лондане — у найлепшым разе пра самога Скарыну.

Рэчаіснасць у Беларусі і тады, і цяпер вельмі адрозніваюцца ад нашай, брытанскай. Так, сёння можна займацца папулярызацыяй беларушчыны, як тое робіць, напрыклад, кампанія "Будзьма беларусамі". Бракуе палітычнай атмасферы, якая б дазволіла адкрыта распаўсюджваць нацыянальную ідэю без аглядкі на палітыку.

**БЖ**: Ці можа рускамоўная Беларусь з невыразнай нацыянальнай ідэалогіяй быць устойлівым дзяржаўным праектам у гістарычнай перспектыве?

**ДжД**: Ніхто не ведае, як павінна выглядаць гэтая ідэалогія. Так, усе кажуць пра беларускую мову, бел-чырвона-белы сцяг і "Пагоню". І што далей? Я скептычна стаўлюся да адраджэнскай мроі. Колькі ўжо можна адраджэнняў? У першую вайну, у другую, у 1990-я. Трэба жыць, а не адраджаць! Магчыма, цяпер у Беларусі фармуецца зусім новая культура. На новым грунце, з іншымі пачуццямі — у незалежнай дзяржаве. Нават калі і пад чырвона-зялёным сцягам. Ідэалы БНР жывуць, але на маю думку, сёння яны мусяць

## ДЖЫМ ДЫНГЛІ: "КОЛЬКІ ЎЖО МОЖНА АДРАДЖЭННЯЎ?"

расчытвацца як спадзяванні на вольную краіну, дзе людзі самі могуць вырашаць уласны лёс. Да гэтага трэба імкнуцца найперш. Усё астатняе — другасна.

Мае думкі засноўваюцца на назіраннях за тым, што адбываецца цяпер у Вялікабрытаніі. Якім бы чынам выглядала "ангельская ідэалогія"? Нават да абвяшчэння шатландскага рэферэндуму аб незалежнасці "шатландская ідэалогія", падаецца, у большай ступені грунтавалася на тым, чым усё шатландскае адрозніваецца ад англійскага (напрыклад, шатландскае значыць неанглійскае). У пэўнай ступені скептычнае стаўленне да мары аб адраджэнні беларускай нацыі базуецца на маім агульным скептыцызме адносна канцэпцыі нацыі ў эпоху глабалізацыі.

**БЖ**: Калі мы адмаўляемся ад мовы і беларусацэнтрычнай гісторыі, да якіх яшчэ маркёраў ідэнтычнасці можна апеляваць пры пабудове нацыі?

**ДжД**: Толькі да суверэннай дзяржавы. Па сутнасці, гэта і робіць Лукашэнка. Праўда, з ухілам на савецкую гісторыю і ва ўласных інтарэсах.

Сёння для мяне відавочна, што спадзеў адно на сімволіку і мову ні да чаго не прывядзе. Людзі будуць гаварыць на той мове, на якой ім зручна.

Да прыкладу, у развіццё валійскамоўнага тэлеканала S4C і валійскамоўнай адукацыі ўклалі процьму грошай. Аднак гэта не дапамагло спыніць хвалю пераходу людзей ад валійскай мовы да англійскай як асноўнай ва ўсіх сферах дзейнасці. Аналагічныя намаганні цяпер робяцца што да шатландскай гэльскай. У найлепшым разе, мяркую, гэтыя захады могуць дапамагчы стабілізаваць сітуацыю, але не змяніць яе карэнным чынам. Ёсць, праўда, і прыклад Каталоніі, дзе падтрымка Еўразвяза дапамагла ўзмацніць нацыянальныя пачуцці.

**БЖ**: Але калі паставіць крыж на ідэалах БНР, на якія абапіраецца беларускі адраджэнскі рух, відавочна, што нашы людзі ніколі самастойна не вернуцца да беларускай мовы…

**ДжД**: Калі вы бераце ў якасці адпраўной кропкі тры дзяржаватворныя статуты Беларускай Народнай Рэспублікі, то варта памятаць пра абставіны, у якіх яна была абвешчана. Сёння яны змяніліся да непазнавальнасці. Пры ўмове, што ідэалам таксама ёсць дэмакратычная дзяржава паводле еўрапейскага ўзору (няхай і пры ўсіх вядомых недасканаласцях), дзе грамадзяне маюць права выказаць свае пажаданні на свабодных выбарах, заўсёды існуе верагоднасць, што большасць будзе галасаваць супраць Беларусі з беларускай мовай у якасці адзінай дзяржаўнай. Што рабіць з гэтым потым? Паставіць грамадзянства ў залежнасць ад ведання дзяржаўнай мовы, як гэта зрабілі ў Латвіі? Не думаю, што гэта слушнае рашэнне.

Беларусь знаходзіцца ў сітуацыі, калі людзі павінны самі выбраць свой шлях. Аднак пакуль яны гэтай магчымасці не маюць. Каб атрымаць яе, неабходна змагацца за права выказваць сваю волю, гарантаванае дэмакратычным ладам. Але як гэта рабіць і калі — справа саміх беларусаў.

Таму я больш не выйду на пікет перад беларускай амбасадай у Лондане, бо дакладна ведаю, што гэта нікому не дапаможа.

**БЖ**: У Вялікабрытаніі жывуць тысячы беларусаў, але ўсяго некалькі дзясяткаў удзельнічаюць у беларускіх мерапрыемствах. Чаму?

**ДжД**: У канцы 1990-х — пачатку 2000-х сюды прыехала даволі шмат людзей з Беларусі, якія па-беларуску амаль не гаварылі. Прадстаўнікі старой дыяспары глядзелі на іх з вялікім падазрэннем. Думаю, гэта не спрыяла паразуменню і збраблíванню гэтых людзей.

**БЖ**: Як іх заангажаваць?

**ДжД**: Беларускія перасяленцы ў Вялікабрытанію перыяду незалежнасці, на мой погляд, — без выключэнняў эканамічныя мігранты. Іхнія чаканні, відавочна, вельмі моцна адрозніваюцца ад чаканняў паваенных беларусаў, якія прыбылі сюды ў якасці ўцекачоў. Зусім неабавязкова, што новая эміграцыя мае аднолькавы са старой узровень нацыянальнай адданасці і жаданне ўдзельнічаць у «нацыянальных» формах беларускага жыцця. Многія з іх паспяхова ўладкаваныя ў лонданскім Сіці, але не спяшаюцца падтрымліваць беларускія ініцыятывы фінансава. Таму адна з нашых задач — ясна і выразна прадэманстраваць, якія праекты вымагаюць падтрымкі і на што пойдзе кожны ахвяраваны фунт.

Варта не забываць пытацца ў саміх беларусаў, якую Беларусь яны хочуць пабудаваць. Размоваў пра беларускую мову і Вялікае Княства Літоўскае ўжо недастаткова.

*Паводле Кастуся Лашкевіча, "Беларусский журнал"*

НАВІНЫ

## У НЬЮ-ЁРКУ ПРАЙШЛА ФОТАВЫСТАВА ДЖОНА КУНСТАДТЭРА "НЕРУШ"



У грамадскай зале сабора Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку адбылося адкрыццё фотавыставы, прысвечанай Беларусі. Аўтар здымкаў, Джон Кунстадтэр, былы супрацоўнік беларускай амбасады, які цудоўна валодае беларускай мовай, пасля адстаўкі з дыпламатычнай службы прысвяціў сябе фатаграфіі.

Героі ягоных твораў – беларускія сяляне падчас іх паўсядзённай працы, вернікі падчас храмавых і каляндарных святаў, людзі сталага веку і дзеці, а таксама прырода Беларусі, яе архітэктура.

Джон Кунстадтар выступіў перад наведнікамі выставы па-ангельску і па-беларуску, распавёў, чым прыцягвае яго Беларусь і яе людзі, па-беларуску адказваў на шматлікія пытанні гасцей, якія цікавіліся, як ён шукае вобразы для сваіх прац, як ён вывучаў беларускую мову, распытвалі пра планы на будучыню.




Болей фота Джона Кунстадтэра на сайце www.radzimaphoto.com.

*Прэс-служба БАЗА*

# ТБК У ГАСЦЯХ У АЎКШТАЙЦІІ

2-3 жніўня Таварыства беларускай культуры ў Вільні правяло сваю чарговую вандроўку. Гэтым разам падарожнічалі па Аўкштайціі (этнаграфічны рэгіён Літвы). У вандроўку нас запрасіў і яе арганізаваў сябра Рады ТБК Васіль Акуневіч. Дзякуючы яму і яго жонцы Яніце мы праехаліся маршрутам Ігналіна-Вісагінас-Зарасай-Салакас-Швядрышкі. Такім чынам, мы глыбей пазнаёміліся з гісторыяй, культурай і этнаграфіяй узгаданага літоўскага рэгіёна.

Сёння ўжо на гэтых тэрыторыях мала што нагадвае, што калісьці гэтыя землі былі пад акупацыяй Расійскай, пазней Савецкай імперыяў. Край пакрысе вяртаецца да сваіх традыцый, звычак, і ў рэгіёне пачынаецца нармалёвае і звыклае жыццё.

Здзіўляе і адразу кідаецца ў вочы добраўпарадкаванасць вёсак і мястэчак з павольным і ўтульным жыццём. Адстаяўшы сваю незалежнасць, літоўцы дзяржаву пачалі будаваць з вяртання сваіх традыцый і мовы. І сёння бачым, усё ў іх атрымалася, у адрозненне ад беларусаў, якія вырашылі будаваць нацыянальную дзяржаву на чужой мове і традыцыях. У выніку – нічога не дасягнулі.

Важна, што літоўцы памятаюць і ведаюць не толькі гісторыю Літвы, але і сваю ўласную, лакальную, гісторыю маленькіх вёсачак, мястэчак і гарадоў. І пра іх расказваюць не з меншым гонарам і павагай, чым пра гісторыю краіны. Беларусам гэтаму трэба павучыцца. Пакуль не навучымся паважаць той кавалак зямлі, дзе нарадзіліся, нічога ў нас не атрымаецца.

У Ігналіне нам Васіль паказаў помнік, прысвечаны адной з самых крывавых і балючых тэмаў у літоўскай гісторыі – сталінскім рэпрэсіям. Так атрымалася, што Ігналіна была апошнім чыгуначным прыпынкам, дзе загружалі ні ў чым не вінаватых людзей (менавіта грузілі як жывёлу, без усялякай чалавечнасці) і вывозілі на пагібель і пакуты ў неабдымныя прасторы крывавай імперыі. І дзякаваць Богу, што сёння можна ўзгадаць і ўшанаваць гэтыя шматтысячныя ахвяры расійскай акупацыі Літвы. Чаго не скажаш пра Беларусь. Там нават мемарыяла немагчыма ўсталяваць: у Курапатах толькі крыжы, якія час ад часу знішчаюць вандалы, і само месца бязбожная антынародная акупацыйная ўлада хоча знішчыць.

Будучы ў Салакасе, наведалі помнік за свабоду для Бацькаўшчыны, усталяваны ў часах Літвы пры Прэзідэнту Антанасу Смятону. Калі прыйшлі рускія, жыхары мястэчка гэты помнік таемна закапалі. І ён праляжаў у зямлі каля паўстагоддзя і дачакаўся сапраўднай незалежнасці для бацькаўшчыны, быў адкапаны і зноў усталяваны як сведчанне, што прагу народа да волі не зламіць.

У чарговы раз хочацца падзякаваць Васілю і Яніце за добра арганізаванае падарожжа, за тое, што яны пакрылі нам выдаткі на харчаванне, начлег. Гэта быў яшчэ адзін крок па збліжэнні літоўскага і беларускага народаў, а таксама мы бліжэй пазнаёміліся з традыцыямі аўкштайтаў. І як бачым, для простых людзей няма ніякіх перашкодаў для кантактавання і вядзення дыялогаў.

Для беларусаў гэта яшчэ адзін урок, як трэба будаваць сваю нацыянальную дзяржаву, каб усё атрымалася. Трэба пачаць з захавання мовы і традыцый свайго рэгіёна. Крэмль не забараняе беларусам у хаце, са сваім блізкімі, роднымі, суседзямі размаўляць па-беларуску і не прымушае размаўляць па-руску. Робяць гэта беларусы па сваёй уласнай волі. А таму і згубілі сваю дзяржаву, а яшчэ трошкі – згубяць і карані і ідэнтычнасць.

*Паводле д-ра Алеся Адамковіча*

# БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТ НА ВЕРАСЕНЬ 2014 ГОДА

1 верасня – Сусветны дзень міру.

2 верасня – 80 гадоў таму памёр Мікалай Ільяшэвіч (1903-1934), гісторык, географ, педагог.

3 верасня – 120 гадоў таму, у 1894-м, у мяст. Жыровічы (цяпер Слонімскі р-н) нарадзіўся Уладзімір Хлябцэвіч, удзельнік грамадска-літаратурнага руху пачатку XX ст.

3 верасня – 95 гадоў таму, у 1919-м, у Вільні выйшаў першы нумар газеты "Незалежная Беларусь", орган Віленскага Белнацкама (выдавалася да 10 лістапада 1919 г.). Рэдактары А. Карабач, К. Мядзёлка.

4 верасня – 185 гадоў таму ў в. Таўкачэвічы (цяпер Уздзенскі р-н) нарадзіўся Ігнат Доўнар (1829-1865), удзельнік вызваленчага руху, музыкант, фатограф.

7 верасня – Дзень беларускага пісьменства і друку.

7 верасня – 300 гадоў таму ў в. Дзітрыкі (цяпер Лідскі р-н) нарадзіўся Міхаіл Карыцкі (1714-1781), паэт, грамадскі дзеяч, педагог.

7 верасня – 10 гадоў таму памёр Алесь Асташонак (1954-2004), пісьменнік, перакладчык.

8 верасня – 500 гадоў таму, у 1514-м, адбылася бітва пад Воршай, у якой войскі ВКЛ на чале з Канстанцінам Астрожскім нанеслі паражэнне маскоўскаму войску. Дзень беларускай вайсковай славы.

12 верасня – 85 гадоў таму памёр Яніс Райніс (сапр. Пліекшанс; 1865-1929), латышскі грамадскі дзеяч, паэт, драматург, перакладчык. Абараняў інтарэсы беларусаў Латвіі, спрыяў беларускай адукацыі і культуры.

14 верасня – 130 гадоў таму ў г. Навагрудак ці засц. Вераскоўшчына нарадзіўся Фабіян Абрантовіч (1884-1946), уніяцкі духоўнік, грамадска-культурны дзеяч, філосаф, рэлігійны педагог.

14 верасня – 50 гадоў таму ў Мінску памёр Язэп Пушча (сапр. Плашчынскі; 1902-1964), паэт. Пахаваны ў в. Каралішчавічы Мінскага р-на.

16 верасня – 155 гадоў таму ў фальв. Судзіловічы (цяпер в. Будзькаўшчына Полацкага р-на) нарадзіўся Браніслаў Эпімах-Шыпіла (1859-1934), дзеяч культуры, выдавец, мовазнавец, літаратуразнавец.

17 верасня – 75 гадоў таму, у 1939-м, савецкія войскі перайшлі мяжу з Польшчай і да 25 верасня занялі тэрыторыю Заходняй Беларусі разам з Вільняй і Беластокам. У выніку адбылося далучэнне Заходняй Беларусі да БССР.

17 верасня – 65 гадоў таму ў Мінску нарадзіўся Генадзь Карпенка (1949-1999), грамадска-палітычны дзеяч, вучоны.

20 верасня – 100 гадоў таму на Навагрудчыне нарадзіўся Базыль Камароўскі (1914-1953), пісьменнік, грамадскі дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і Канадзе.

21 верасня – 105 гадоў таму ў г. Нясвіж нарадзіўся Дзмітрый Касмовіч (1909-1991), дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху і эміграцыі ў Бельгіі і Нямеччыне.

24 верасня – 110 гадоў таму ў в. Цяцеркі (цяпер Браслаўскі р-н) нарадзіўся Марыян Пецюкевіч (1904-1983), дзеяч заходнебеларускага нацыянальнага руху, этнограф.

25 верасня – 100 гадоў таму ў мяст. Зэльва нарадзіўся Яўген Смаршчок (1914-1984), педагог, перакладчык, прафесар, святар Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай царквы, дзеяч эміграцыі ў Бельгіі.

25 верасня – 10 гадоў таму, у 2004-м, памёр Паўло Андрусішын, украінска-беларускі дзеяч эміграцыі ў ЗША, бацька Данчыка. Нарадзіўся 27 верасня 1924 года.

27 верасня – 105 гадоў таму ў в. Скварцы (цяпер Дзяржынскі р-н) нарадзіўся Лукаш Калюга (сапр. Кастусь Вашына; 1909-1937), пісьменнік.

29 верасня – 85 гадоў таму, у 1929-м, памёр Ян Тарчэўскі, грамадскі дзеяч, "нашанівец", настаўнік.

30 верасня – 80 гадоў таму ў Маскве (Расія) памёр Мітрафан Доўнар-Запольскі (1867-1934), гісторык, эканаміст, этнограф, адзін з заснавальнікаў нацыянальнай гістарыяграфіі.

## 95 ГАДОЎ ТАМУ Ў ВАРШАВЕ ЎЗНІКЛА ПОЛЬСКА-БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА

Не дапусціць падзелу Беларусі ды стварыць сумесную федэрацыю з Польшчай – такі лозунг прагучаў 95 гадоў таму ў разгар савецка-польскай вайны (1919-1921). Дзеля гэтага шэраг нацыянальна-дэмакратычных дзеячаў і ўрадоўцаў БНР стварылі ў Варшаве Польска-беларускае таварыства. Так пачынаўся новы этап барацьбы за Беларусь і развіццё беларускага руху ў Польшчы.

У склад кіраўніцтва таварыства ўвайшлі: былі прэм'ер БНР Раман Скірмунт, буйны дзеяч Беларусі Эдвард Вайніловіч, Павел Алексяюк ды Браніслаў Тарашкевіч. Пазней да дзейнасці далучыліся княгіня Магдалена Радзівіл і граф Ежы Чапскі. Дзеячы намагаліся прызнання іх палітычнага праекту ў Пілсудскага і кіраўнікоў Еўропы. З гэтай прычыны Раман Скірмунт зрабіў афіцыйны візіт у Нямеччыну, Францыю ды Швейцарыю.

Перамовы імгненных вынікаў не далі, ды і Беларусь падзялілі згодна з Рыжскім мірам. Пасля гэтага Скірмунт вярнуўся ў роднае Парэчча, дзе заняўся развіццём гаспадаркі, кажа дырэктарка Парэчанскага музею Антаніна Сідарук: “Стараўся, каб дзеці сялян былі адукаваныя. У Парэччы было 2 школы: у адной займаліся дзеці сялян, у другой рыхтавалі рабочых на суконную фабрыку. Улады сёння не ўмеюць нават захаваць тое, што было зроблена калісьці. Вінакурны завод раней працаваў. Усё гэта разрабавалі. Людзям зараз няма дзе працаваць. А на той час вёска была прамысловая”.

Тым не менш дзейнасць Польска-беларускага таварыства данесла да палітычных колаў Еўропы жаданне беларусаў мець уласную дзяржаўнасць. Была падрыхтавана глеба для дзейнасці беларускіх арганізацый у выгнанні для барацьбы за вольную Беларусь.

*Пятро Савіч, “Беларускае Радыё Рацыя”*

IN MEMORIAM

## У ПРАЗЕ ПАХАВАЛІ ЮРКУ СТАНКЕВІЧА



7 жніўня ў Празе ва ўзросце 86 гадоў памёр вядомы дзеяч беларускай дыяспары, сябра Вялікай Рады МГА “ЗБС “Бацькаўшчына“ Юрка Станкевіч.

Юрка Станкевіч нарадзіўся ў Празе ў сям'і выбітнага мовазнаўцы Яна Станкевіча. Ён быў сябрам Рады БНР, заснавальнікам суполкі беларусаў у Чэхіі “Пагоня“, арганізаваў школку для беларускіх дзетак у Празе.

Сваякі і сябры 15 жніўня праводзілі яго ў апошні шлях. У пражскім касцёле U Salvátora адбылася жалобная імша, прагучалі развітальныя прамовы блізкіх.

Сяргей Навумчык, намеснік старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы, падчас прамовы выказаў спачуванні родным сп. Юркі і ад імя самой спн. Івонкі. У ягонай прамове прагучалі цудоўныя словы: “Аптымізм Юркі ўражваў і натхняў. І гэта спалучэнне аптымізму, веры ў сапраўдную незалежнасць Беларусі, якую ён ніколі на працягу свайго жыцця не губляў, і зайздроснай энергіі паслужыць добрым прыкладам для ўсіх тых, каму надалей давядзецца несці святы бел-чырвона-белы сцяг“.

Пасля імшы сябры і блізкія сп. Юркі мелі магчымасць пазнаёміцца і паразмаўляць, узгадаць сп. Юрку ў размовах, разглядзець фотаздымкі з ягонага насычанага падзеямі жыцця. Увечары пачаўся абрад пахавання на могілках у Кладна, дзе была пахаваная жонка сп. Юркі, спн. Гана Марыя Браніса-Станкевіч.

Яна Браніса падзякавала ўсім гасцям, якія сабраліся разам, каб развітацца і аддаць даніну павагі яе бацьку. Яна была вельмі рада пабачыць усю сваю сям'ю разам.

Па старажытнай беларускай традыцыі Віталь Цімошчанка зайграў на дудзе развітальную мелодыю. Пасля гэтага прысутныя ўскладалі кветкі і вянкі на магілу, у апошні раз казалі сп. Юрку развітальныя словы.

Светлая памяць дзядзькі Юркі яшчэ доўга будзе жыць у сэрцах тых, хто меў шчасце ведаць гэтага вялікага чалавека.

*Паводле pahonia.cz*
*і “Радыё Свабода“*
*Фота “Радыё Свабода“*

## БЕЛАСТОЦКІ РЭЖЫСЁР ЗНЯЎ ФІЛЬМ ПРА БЕЛАРУСКІЯ ДЫЯЛЕКТЫ ПАДЛЯШША

Беларускія дыялекты Падляшша ў новым фільме беластоцкага рэжысёра Міколы Ваўранюка пад назвай “Гавораць беларусы Падляшша”.

“Гавораць беларусы Падляшша” – гэта дакументальнае кіно, у якім свае гісторыі распавядаюць людзі з розных куткоў Падляшскага ваяводства. У фільме можна пачуць гісторыю бежанства жыхароў Беласточчыны, успаміны пра Другую сусветную вайну, а таксама пра штодзённае жыццё ў часы камуністычнай Польшчы. Кажа Мікола Ваўранюк: “Маёй мэтай было паказаць багацце беларускай жывой мовы, якая яшчэ жыве ў іншых мясцовасцях, якой яшчэ гавораць людзі. Паколькі яна іх матчына мова, часта адзіная мова на якой яны гавораць, вельмі багатая, з цікавымі словамі, ужо часта прызабытымі, з такімі, якіх не чуем на ўроках беларускай мовы”.

Фільм створаны паводле цыкла спектакляў “Ой даўно, даўно. Беларускія гісторыі з Падляшша”, у якім маладыя людзі распавядаюць гісторыі з жыцця сваіх бабуляў і дзядуляў.

*“Беларускае Радыё Рацыя”*

## МІФЫ ПРА БЕЛАРУСКАСЦЬ І БЕЛАРУСАЎ АБМЯРКОЎВАЛІ НА “БЕЛАРУСКІМ ТРЫЯЛОГУ”

“Мы ведаем, што значыць быць беларусам, і разумеем, што такое беларускасць. Цяпер мы хочам, каб пра гэта дазналіся ў Польшчы”, – падводзіць вынікі Беларускіх Трыялогаў у Крынках (Польшча) прафесар Лявон Тарасевіч. Паводле яго, важна, каб беларуская культура, літаратура, мастацтва і палітыка былі прадстаўлены на самым высокім узроўні: “Мы хочам, каб асоба Сакрата Яновіча, асобы іншых людзей, адметных для нашай культуры, наша гісторыя, культура былі адкрытымі, каб іх маглі пазнаць іншыя людзі на ўзроўні высокай культуры. Стараемся першыя гады па смерці Сакрата, каб гэтая справа не спынілася, каб гэта было, жыло і давала плён”.

“Беларускія Трыялогі”, якія спалучаюць людзей розных нацыянальнасцяў і розныя напрамкі культуры, літаратуры, гісторыі і мастацтва, запачаткаваў 15 гадоў таму беларускі пісьменнік і публіцыст Сакрат Яновіч, ураджэнец Крынак. Паводле традыцыі, вынікам Трыялогаў стане выданне чарговага нумару часопіса Annus Albaruthenicus.

*Паводле “Беларускага Радыё Рацыя”*

# ЛЕАНІД ЛЫЧ: БЕЗ СВАЁЙ МОВЫ НАРОД НЕ СТВАРАЕ НІЧОГА АРЫГІНАЛЬНАГА




Моўная палітыка ў Беларусі, роля беларускай мовы ў грамадстве і статус рускай мовы як дзяржаўнай у Беларусі дагэтуль выклікаюць шматлікія дыскусіі. Сваімі думкамі на гэты конт з чытачамі "Belarusian Review" дзеліцца доктар гістарычных навук, прафесар Леанід Лыч, аўтар шматлікіх манаграфіяў пра гісторыю беларускай культуры, моўную палітыку і міжнацыянальныя адносіны ў Беларусі.

**Belarusian Review**: Пачынаючы з 1995 г. у Беларусі на дзяржаўным узроўні замацаванае двухмоўе. Як Вы ацэньваеце гэтае рашэнне?

**Леанід Лыч**: Афіцыйнае двухмоўе, якое замацавалася ў Беларусі з прыходам да ўлады Аляксандра Лукашэнкі, не адпавядае сусветнай практыцы. Ёсць краіны двухмоўныя, трохмоўныя і г.д. Аднак гэтыя краіны ёсць поліэтнічнымі, бо на іх тэрыторыі спрадвеку жывуць прадстаўнікі розных этнасаў. Беларусь – гэта монаэтнічная краіна з адным карэнным народам – беларусамі. Рускія, украінцы і іншыя народы, якія жывуць у Беларусі, ёсць тут этнічнымі супольнасцямі, мовам якіх ніводная краіна не дае статусу дзяржаўнай. Таму наданне рускай мове статусу другой дзяржаўнай ў Беларусі было зроблена насуперак міжнароднай практыцы рэгулявання моўнымі працэсамі.

Сусветная навука мела вельмі грунтоўныя манаграфічныя даследаванні ў пытанні двухмоўя, калі тая ці іншая краіна спрабавала ўводзіць двухмоўе. Прыкладам могуць быць даследаванні Карла Каўцкага. Згодна з ім, афіцыйнае двухмоўе – гэта часовая з'ява. Паміж мовамі вядзецца бязлітасная барацьба на выцісканне. Як правіла, з цягам часу перамагае адна мова, незалежна ад таго, ці ёсць яна роднай для большасці насельніцтва. Усё залежыць таго, як улады глядзяць на моўную палітыку. Таму пры адпаведнай палітыцы ўладаў нават мова карэннага насельніцтва можа страціць пазіцыі на сваёй гістарычнай тэрыторыі.

**BR**: Як ажыццяўленне моўнай палітыкі дзяржавай пасля 1995 г. паўплывала на беларускае грамадства?

**ЛЛ**: На першы погляд, у гэтым ёсць быццам бы штосьці прагрэсіўнае, бо ніхто моваў не забараняе. Але хто павядзе дзіця ў беларускамоўны садок ці школу, калі мае на прыкмеце далейшае навучанне ва ўніверсітэце і прафесійную кар'еру? А там усюды толькі руская мова. Таму нават самыя вялікія патрыёты стрымліваюць свае памкненні. Па-другое, якое гэта калецтва для развіцця і псіхікі дзіцяці. Выйсцем з гэтай сітуацыі я бачу тое, каб дзяржава афіцыйна выступіла і прызнала сваю памылку і заявіла, што, напрыклад, з новага года мы пачынаем вяртацца да сваіх нацыянальных каранёў, у першую чаргу – да мовы. Людзей трэба рыхтаваць.

У нашых людзей у глыбінных пластах душы нацыянальнае захоўваецца. Прыгадайце, як абудзілася грамадства, калі напрыканцы 1980-х адчулася, што нешта можна рабіць на нацыянальнай хвалі. Хаця ўжо тады інтэлігенцыя ў другім, а то і ў трэцім пакаленні была зрусіфікаваная. Беларуская вёска была таксама не тая. Нашу вёску русіфікавалі радыё, тэлебачанне і кіно. Акрамя таго, з 1962 г. "Сельскую газету" перавялі на рускую мову. Нельга таксама забывацца пра вельмі вялікую разбуральную ролю ў гэтым кірунку з боку вясковай інтэлігенцыі, адукаванай на рускай мове. Існавала шмат фактараў, якія адвучвалі нас ад беларускай мовы, каб мы жылі не сваім жыццём. Аднак я веру, што нават сёння варта толькі дзьмухануць у гэтае нашае нацыянальнае вуголле, і адразу разгарыцца вогнішча. Але ж хто дзьмухане?..

**BR**: Якія захады мусяць рабіцца для шырэйшага вяртання беларускай мовы ў штодзённае жыццё?

**ЛЛ**: Сённяшні стан мовы і нацыянальна-адраджэнскага працэсу паказвае, што саматужніцтвам, ініцыятыўным шляхам прыхільнікаў роднага слова яны не могуць вярнуцца да жыцця. Настолькі нацыянальная інтэлігенцыя страціла сваю актыўнасць, што ў яе няма патэнцыялу на гэта. Лёс беларускай мовы сёння цалкам залежыць ад дзяржавы, бо менавіта ў руках дзяржавы знаходзіцца сфера адукацыі. Дзяржава можа падняць мову любой ступені захворвання. Цудоўным прыкладам тут можа быць дзейнасць Дзяржавы Ізраіль у адраджэнні іўрыту.

Я прыгадваю наша адраджэнне пачатку 1990-х гадоў. Вяртанне беларускай мовы ў публічнае жыццё пайшло так спраўна, што калі б гэты працэс не быў перарваны ў 1995 г. і працягнуўся яшчэ два-тры гады, то руская мова не мела б шанцаў, каб у выніку рэферэндуму стаць другой дзяржаўнай. Наагул, калі 26 студзеня 1990 г. быў прыняты Закон "Аб мовах", ніхто так актыўна не вывучаў беларускай мовы, як гэта рабіла чыноўніцтва. Таму, калі б Лукашэнка пачаў размаўляць па-беларуску, усе б стараліся паўтараць за ім. Як ні дзіўна, але лёс мовы залежыць не ад навукоўцаў, а ад палітыкаў. Насельніцтва размаўляе на той мове, на якой абслугоўваецца палітычнае жыццё ў краіне.

**BR**: Ці магчыма існаванне Беларусі і беларусаў як нацыі без беларускай мовы?

**ЛЛ**: Я лічу, што народ па-за сваёй роднай мовай не з'яўляецца паўнавартасным народам, гэты народ этнічна хворы. Без сваёй мовы такі народ не стварае нічога арыгінальнага, бо паўтарае, прычым у горшым варыянце, тое, на чыю мову і культуру ён перайшоў. Таму як нейкі соцыум такі народ будзе існаваць, але ён не будзе ўяўляць нечага самабытнага, якое ў стане ўзбагачаць культурную разнастайнасць цывілізаванага свету.

*Размаўляла Ганна Васілевіч*

**Даведка рэдакцыі**: Леанід Лыч – доктар гістарычных навук, прафесар. Аўтар манаграфіяў пра гісторыю беларускай культуры, моўную палітыку і міжнацыянальныя адносіны ў Беларусі ў XX ст. Старшыня Тапанімічнай камісіі пры Прэзідыуме Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь (1992-1996).

*Гэты артыкул з'явіўся па-англійску ў Belarusian Review, Vol. 26, No. 3.*



*Фота - «Новы Час»*

**Беларусы ў свеце**
№8(148), жнівень 2014

Інфармацыйны бюлетэнь МГА "ЗБС "Бацькаўшчына". Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.

Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.
Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – А. Башарымава
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906,
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb@tut.by

тэл./факс (+375 17) 200-70-27